


Маляваў
**КАСТУСЬ КУКСО**

Рыфмаваў
**РЫГОР БАРАДУЛІН**

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1985

## Да відэачытачоў

Пад адным дахам вясёлай хаты, якая завецца кніжкай-малышкай, сабраліся вядомыя людзі розных жанраў — пісьменнікі, мастакі, артысты, дзеячы кіно і тыя, хто дбае пра кнігу. Званні і заслугі не ўказваюцца — народ ведае сваіх герояў. Алфавітны прынцып размяшчэння самы дэмакратычны. Калі чытач, ён жа і глядач, усміхнецца — аўтары будуць таксама не сумныя.

Кастусь Куксо, філолаг па спецыяльнасці, даўно захапіўся шаржам, карыкатурай. А першым ягоным настаўнікам быў выдатны беларускі шаржыст Міхась Лісоўскі. Цяпер у творчай кайстры Кастуся Куксо не пуста — звыш 30-ці кніг праілюстраваў вясёлым пяром, удзельнічаў у многіх выстаўках. А ў славутым на дасціпнасць Габраве ў 1979 годзе стаў лаўрэатам IV Міжнароднага біеналe карыкатуры і сатырычнай скульптуры, атрымаўшы II прэмію — срэбныя каралі. Такое ўпрыгожанне і мужчыну пасуе, а тым болей срэбра — на шчасце, на поспех! Такую фемінізацыю толькі вітаю.

Гэтую кніжку-кішанёвачку задумалі мы даўно. Пісалі паасобку, кожны сам за сябе, бо Кастусь не давяраў мне рабіць шаржы, а яму не давяраў рыфмы.

Адно ўдакладненне. Чаму так звяртаюся, бо гэтае неакадэмічнае выданне адначасова трэба бачыць і чытаць, ці чытаць ды бачыць. Таму і новая ці што катэгорыя — відэачытач.

А, наогул, аўтарам хацелася зрабіць кніжку вясёлай, таму чым болей тлумачыш, тым болей сумна і відэачытачу, і самому. Адным словам, глядзіце і чытайце ці наадварот!

*Рыгор Барадулін*



## АЛЕСЬ АДАМОВІЧ

Не звык лічыцца з брэхамі,
Пачаў з «Вайны пад стрэхамі»
Змагацца з подласцю, з маной
Пісьменнік праўдзейны,
Бо зведаў сам, якой цаной
Здабыты мірны дзень наш.



## ЗАІР АЗГУР

Ад успамінаў пацяжэла кайстра,
Ды не зважае на гады свае,
Ідзе —
І помнікі вітаюць майстра,
А ён між іх сябе не пазнае.



## УЛАДЗІМІР АЛОЎНІКАЎ

Гул энцыклапедычных слоўнікаў
І ўсіх даследчыкаў канвой
Заглушыць песняй Ул. Алоўнікаў
Лясной,
Заводскай,
Страявой.



## АНАТОЛЬ АНІКЕЙЧЫК

Ён народны, а не нейчы,
Люты ў працы Анікейчык.
Анатоль без пыхі ментарскай
Долы, горы, паркі, скверыкі
Засяляе манументамі
Ад Ушач аж да Амерыкі!



## ГЕНАДЗЬ АЎСЯНІКАЎ

Не для юбілейных ззяннікаў,
Не для ўхвал і для пахвал
Сцэне дадзены Аўсянікаў
Біць, як шквал,—
Каб напавал!



## АЛЕГ БЕЛАВУСАЎ

Па волі сваёй, без прымусаў
Пайшоў у кіно Белавусаў,
Цяпер не чапайце Алега —
Феліні Алегу калега!



**АНДРЭЙ БЕМБЕЛЬ**

Аб пошуках
Напомніць стэла,
Аб тым, як уцякаюць дні.
У неўміручасці Гастэла,
А Бембель сёння на кані.



**ВАРЛЕН БЕЧЫК**

Заўсёды трапна, без асечак
У крытыцы страляе Бечык,
Трымаючы на мушцы вока,
Надзённа бачыць і — далёка!



## УЛАДЗІМІР БОЙКА

Яго надзел — палітра, ліра,
І гледачам, і чытачам
Ён так усё тлумачыць шчыра,
Што ўрэшце разумее сам!



## ЗІНАІДА БРАВАРСКАЯ

Каб не дала Адэса-мама
Яе на радасць гледачам,
Было б не весела вачам,
Тэатр бы агарнула драма.



## ЯНКА БРЫЛЬ

Нашто хадзіць
Наўкола ды каля —
Далёка ў свеце ведаюць Брыля:
На кожнай мове ён гучыць
Як родны.
Прызнаны ўсенародна
Наш народны!



**ДЗМІТРЫ БУГАЁЎ**

Са славаслоўем Бугаёў
Вайну крытычную павёў.
І ўсе за гэту заваёву
Вітаюць думку Бугаёва.



**ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН**

На клопатаў маштабны вір,
І на палёт за небасхілы,
І на экран, і на эфір,—
На ўсё стае ў Паэта сілы.
І ёсць у класіцы папраўкі на
Неўтаймаванага Бураўкіна.



## ІВАН БУРСАЎ

Знаходзіць адрас казка сама,
Свой шлях цярэбячы да чытача,
Ад Андэрсана — да Іванбурсана,
У сэнсе
Івана Цярэнцевіча!



## ВАСІЛЬ БЫКАЎ

Пакуль там нехта мыкаў, пыкаў,
Заваяваў Еўропу Быкаў.
Не верыць дужа ў цішыню
Той,
Хто на лініі агню!



## ГЕНРЫХ ВАГНЕР

Не браў ні крыкам, ні плачом,
У Музы не прасіў падачак,
Музычным адамкнуць ключом
Умее сейфы душ слухачак.



**СЯРГЕЙ ВАКАР**

Талент — дар,
А дар — не кара,
З гэтым бронзавы Максім
Згодзіцца, хоць на Вакара
Ён падобны не зусім.



## ЭДУАРД ВАЛАСЕВІЧ

Паслаб патрабавання гайкі,
Бяры любую тэму ў лоб,
Заплюшчы вочы —
Хлынуць байкі,
Якім зайздросціў бы Эзоп.



## ЮСІФ ВЕЙНЯРОВІЧ

Вайну здымаў прамым прыцэлам
Не ў павільёнах —
На вайне.
І ў кожным кадры чорна-белым
Гарыць агонь на палатне.



**АРТУР ВОЛЬСКІ**

Працуе — шчырай сведкай ліра —
Артур з імпэтам юнака,
То як прыёмны сын Шэкспіра,
То як пляменнік Маршака.



## ВІКТАР ВУЯЧЫЧ

Без Вуячыча эстрада
Быць была б, напэўна, рада,
Ды Вуячыч без эстрады
Сам сабе не даў бы рады.



## АНАТОЛЬ ВЯЛЮГІН

Зарыфмаваліся даўно
А. С. Вялюгін і кіно,
Ды рыфма з рупных рук Купалы
З маленства мэтра ўпадабала.



**ВЕРА ВЯРБА**

Вясной зялёнай ля ракі
З Алёнай мыла «Ручнікі»,
Каб потым змусіць хваляванне
Падаць руку на развітанне.



**МІКОЛА ГАНЧАРОЎ**

Ён з тых, напэўна, ганчароў,
Што пры багах гаршкі ляпілі:
Верш возьме з віцебскіх бароў
І ў мастакоў адрозніць стылі.



**НІЛ ГІЛЕВІЧ**

Паэзіі неба плячыма падпершы,
Гілевіч стаіць,
Як атлант-варатар.
Ён у Саюзе пісьменнікаў першы
Сакратар.



## ЯЎГЕН ГЛЕБАЎ

Загана адна ў Яўгена —
Пісаць ён не ўмее дрэнна.
З-за гэтай адной заганы
Яўген — улюбёнец пашаны.



**УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ**

Качае, быццам мёд з калодаў,
Артыкулы Ул. Гніламёдаў,
І ўсе напісаны грунтоўна,
Тактоўна, роўна — і дыхтоўна,
Ні звадна, ні паныла-модна,
А навукова-гніламёдна.



## АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ

Як рэдактар «Маладосці»
Маладое мае штосьці,
Што «Грыбной парой» у лесе
Адпаведнай рыфмай лезе.



## ІГАР ДАБРАЛЮБАЎ

Бясплоднасць выпадковых шлюбаў
Аспрэчыў Ігар Дабралюбаў,
Як «Вуліцаю без канца»
Пабегла ўдача на лаўца.



**ЛЕАНІД ДАЙНЕКА**

Хоць з юных год для Леаніда
Зарыфмавалася планіда,
Не вынес вершаў моцнай дозы
І грукаецца ў дзверы прозы.
Усе ў лірычным перапудзе —
Сюжэт, малюнкі, аўтар, людзі.



## ПАВЕЛ ДУБАШЫНСКІ

А Павел покуль што не званнем —
Народны
Талентам сваім.
Заняты радыёвяшчаннем,
А не зайздрослівым вішчаннем,
Ён даспадобы ўсім
Зусім.



## МІХАЛ ДУБЯНЕЦКІ

Як перакладчык,
Як дырэктар
Ён талент мае дужа рэдкі,
Бо непахіснага Міхала
Трывала кніга пакахала.



## ВІРЫНЕЯ ЖЫЖЭНКА

Можна смела ўзвесці Пірэнеі
З кніг, што блаславіла Вірынея.
І лятуць, як птушкі, кнігі ў вырай,
Блаславёныя таксама Вірай.
Нездарма Жыжэнка ў выдавецтве
Найгалоўным мастаком завецца!



## ДЗМІТРЫ ЗАЙЦАЎ

На Зайцава на дэльтаплане
Ніхто звысоку ўжо не гляне.
А з дэльтаплана ўсё відно —
Вось так і робіцца кіно!



## АЛЯКСЕЙ ЗАРЫЦКІ

Пацвердзяць Данелайціс, Гайнэ,
Зарыцкі іх тлумачыць дбайна.
Свая дзялянка не ўлясее
У працалюба Аляксея.



**ЛЕАНІД ЗАХЛЕЎНЫ**

Захлеўны першы ўчуе звон
І высветліць, адкуль быў ён.
Галоўнае, каб паспяваць,
А песні могуць не спяваць.



## АЛЕКСАНДР ЗІМЕНКА

Каб профіль Пікасо ці Макаля
Скераміць — патрэбна хвіліна,
А пра адваротны бок медаля
Не скажа цярплівая гліна.



## ВАСІЛЬ ЗУЁНАК

В. Зуёнак рыфму чуў з пялёнак,
І зямляк Зуёнкаў —
Кавалёнак
Лётаў доўга ў космасе,
Няйначай,
Зачытаўся Васілёвай «Начай».



## ВІКТАР КАВАЛЕНКА

Чым даводзіць іншым аксіёму,
Збудаваць лягчэй раман самому.
Ісціне амаль эквівалентна
Усё, што піша
Віктар Каваленка.



**МІКАЛАЙ КАЗЛОЎ**

Зазначыць можна пра Казлова
Ён кнігу робіць адмыслова,
Адно кватэра ў Мікалая
Для грамат і прызоў малая.



## КАЗІМІР КАМЕЙША

Хай крытык кідае каменьчык
У нескупы гарод Камейшы,
На зайздрасць іншым Казіміра
Дасюль раўнуе Муза шчыра.



## УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

Ён адзін пастараўся
За ўсіх, за вякі,
Князь праўкраснага ўмельства
Уладзімер,—
Замкі ўзвёў
І ўвагнаў у гекзаметр радкі,
Дойлід, латнік,
Асветнік і рымар.



**ПАВЕЛ КАРМУНІН**

Там, дзе Кармунін, Там натхненне —
І на экране, і на сцэне
Жывая ісціна старая,
Што талент вобразы стварае.



## СЯРГЕЙ КАРТЭС

Картэс, нібы ў глыбокі лес,
У кінастудыю залез.
А крытыкі пачуе брэх там,
Каб усміхнулася фартуна,
Пагутарыць выходзіць
З Брэхтам,
З Халіпам ці з Джардана Бруна.



## МІХАСЬ КАЦЮШЭНКА

Хоць і закружаны страшэнна
Рэдактарствам М. Кацюшэнка,
Ды рупіць месца мець і ў прозе
У кабінеце — не ў парозе!



**АРЛЕН КАШКУРЭВІЧ**

Бягуць калегі ўсе ў парафійкі,
Як на пажар
Ці на базар,
А. Кашкурэвіч — рыцар графікі
Не тлуміцца, бо гаспадар.



## НАВУМ КІСЛІК

Перакладаў не што папала,
А Куляшова ды Купалу.
Радку гранёнаму Навум —
Вясёлы сват і пільны кум.



## АЛЕГ ЛОЙКА

Прапах архівамі і мятай
І не зачах ад хрэстаматый,
І недаступнасць ЖЗЛ
Узяў ён першы на прыцэл.
Наспех узводзіць барыкады
Алег з тамоў уласных рады.



**СЯРГЕЙ ЛУКЯНЧЫКАЎ**

Шастом спартыўнага кіно
У класіку намацаў дно,
Ды ў класіцы, як ні хітры,
З крутым характарам віры.



## ІГАР ЛУЧАНОК

Не ведаў Лучанок ляноты —
Усё, што мог, паклаў на ноты,
Адзін заняў пасады ўсе
Ды бранзавее пакрысе.



## ГАЛІНА МАКАРАВА

Ад бога талент узяла
І завязала ў хустачку.
Іграе так багінь сяла,
Бы сыпле соль на лустачку.
І шчырасцю Макарава
Усіх пераштукарыла.



## АДАМ МАЛЬДЗІС

Ён і пад дружбу —
Сведкай друк! —
Падводзіць навуковы базіс.
У Акадэміі навук
Рунее Мальдзіс, як аазіс!



**ЮРЫ МАРУХІН**

Не нагоніш скрухі на
Юрыя Марухіна:
Ён глядзіць праз аб'ектыў на
Краявід неаб'ектыўна.



## АЛЯКСАНДР МІРОНАЎ

З чалюскінскаю
Вытрымкай Міронаў
Па тэме біў —
Не шкадаваў патронаў,
Пісаў грунтоўна,
Адагнаўшы змору,
Вады хапіла твору,
Як і мору.



## ДЗМІТРЫ МІХЛЕЕЎ

Міхлееў тут, Міхлееў там —
І піша, і малюе сам,
Яшчэ, як дзядзька-чарадзей,
Здымае фільмы для дзяцей.
Спрабуе скрозь сябе Дзімітры,
Мільгаюць хобі, быццам цітры.



## ВАЛЯНЦІН МЫСЛІВЕЦ

На завод хадзіў штогод
Нарысоваю паходкаю,
А пасля налёг на мёд —
Пацягнула на салодкае.



**ІВАН НАВУМЕНКА**

Інтэлігентны жанр навельны,
Ды ў ім паважнасці не вельмі.
Раман — аснова манумента
Пасады віцэ-прэзідэнта.



**ПІМЕН ПАНЧАНКА**

Верш ягоны
Байцоў падымаў у атакі,
Звыж паэт,
Лёгкай славай не абцяжараны,
Махлярам паказаць,
Дзе зімуюць ракі,
І сябрам падказаць,
«Дзе начуе жаўранаж»



## ПАЎЛЮК ПРАНУЗА

Усё паспеў пазнаць Паўлюк —
Прагнаць радком крынічным
Смагу,
Трымаць вінтоўку і палюк
І распісацца
На рэйхстагу!



## ПЯТРО ПРЫХОДЗЬКА

Такуе крытык, атакуе,
А думку не ўлічыў такую
Загартаванага Пятра
Ён не адцягне ад пяра!



## ЮЗЭФ ПУЧЫНСКІ

Сакрэт жаноцкасці красы
Адкрыў Юзэф за ўсе часы,
Як франтавік і працаўнік
Ён спаць у шапку не прывык!



## МІХАІЛ ПЯТРОЎ

Ад заўваг крытычных і вятроў
Талентам затулены Пятроў.
Міхасю стараннаму ў заслугу
След яшчэ паставіць
Вернасць ТЮГу.



## ВАЛЕРЫ РАЕЎСКІ

З мадэрнам толькі ў галаве,
У позе стомленага лорда
Тым і наватарам слыве,
Што ў шумны поспех
Верыць цвёрда.



**ВАЛЕРЫ РУБІНЧЫК**

У поспеха капрызнага
Любімчык,
Так паляванне дзікае Рубінчык
Падаў па-каралеўску
На экранах,
Аж пазайздросцілі ў Міры
І ў Канах.



## МІХАІЛ САВІЦКІ

Прайшоўшы пекла ўсе кругі,
Ён стаўся свету дарагі,
Абсяг ягонай працы плённай
Ухвалены самой мадоннай.



## ЮРАСЬ СВІРКА

Стала стылем у паэта Свіркі
Не звяртаць увагі
На прыдзіркі.
Трыдцаць год якраз,
Як у сталіцы
Тужыць ён па роднай Маргавіцы.



## МІКАЛАЙ СЕЛЯШЧУК

Спілаваўшы графікі дрэва,
Селяшчук пазірае налева,
Як чаляднік, стараецца ўпарта
Зноў адкрыць
Калаўроты поп-арта.



## ЯЗЭП СЕМЯЖОН

Адзін дэвіз у Семяжона —
Перакладаць надзённа, плённа.
Яму — што там ні гавары —
Любая мова па пяры!



## ЮРЫ СЕМЯНЯКА

Не траціць час на перакуры
Старанны Семяняка Юры,
Каб з операю аперэту
Не перабльтаць па сакрэту.



## ВАСІЛЬ СЁМУХА

Так косіць — аж кассё ў імху,
А Мефістофель Сёмуху
Падносіць з кубка змовы піць,
Каб Фаўставу душу купіць.



## ДЗМІТРЫ СМОЛЬСКІ

Кантатны, рамансавы
І камсамольскі,
У думках, у руху,
У пошуках Смольскі.
І опера Дзімітрыю славу спявае,
Хоць не стары,
А «Легенда сівая».



## ЗДЗІСЛАЎ СТОМА

З дому Стома стому выслаў,
Хоць гады бяруць круцей,
Каб амаладзіцца, Здзіслаў
Піша кніжкі для дзяцей.



## МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ

Такі яму ўжо выпаў вырак:
Над словам разбівацца ўшчэнт,
Міхась Стральцоў
І ў прозе лірык,
І ў лірыцы — інтэлігент.



### ЮРЫ СТУПАКОЎ

Хоць раскрыўся
Талент Ступакова
У тэатры родным стобакова,
Хочацца пабыць і на экране,
Не злічыць у ім,
Бы ў шклянцы, грані.



## РЫГОР СУРУС

Найшаноўную прафесуру сам
Замяніць можа Сурус Сурусам,
Прачытаць можа лекцыю ясную
Без запінкі
Пра творчасць уласную.



## БАРЫС СЦЯПАНАЎ

Покуль ёсць граніца і шпіёны,
Покуль хіжых не злечыць лычоў,
Будуць у Сцяпанава мільёны
Дэтэктывапрагных гледачоў.



## МАКСІМ ТАНК

Каму паэзія — альтанка,
Яму — пярэдні край з юнацтва.
Вандроўны дух Максіма Танка
Не хоча са спакоем знацца.
І крытыкі ў адчаі вечным
На ўчастку танканебяспечным.



## ВАЛЯНЦІН ТАРАС

Не змог бы ўзняць
За раз «Ікарус»
Задум,
Што марыць здзейсніць Тарас.
Перад удачаю Валюшык
Свой не заломваў капялюшык.



## ВІКТАР ТАРАСАЎ

Чало недарэмна ў Віктара
І цернем, і лаўрамі ўвітае,
Бо любяць усе Тарасава
Індывідуальна і масава.



## ВІКТАР ТУРАЎ

Куды яшчэ далей расці?
Людзей з балота акультурыў,
Свой горад мае пры жыцці,
Багаты на стагоддзі,—
Тураў.



## МІКОЛА ФЕДЗЮКОВІЧ

Хоць і граніт ён услаўляў,
Пра пастамент не думаў,
Любіў Мікола словасплаў
Ля рэдакцыйных румаў,
Радкоў падважваў бёрны,
Як кансультант узорны.



## КАНСТАНЦІН ЦІХАНОВІЧ

Ён Ціхановіч той,
Што ў «Беларусі»
Працуе больш
З нажніцамі ў хаўрусе,
Што з пэндзлем
Сам знаёмы не занадта,
Ёсць довад —
У часопісе заняты!



## АСКОЛЬД ЧУРКІН

І класавы гнеў
У Аскольда не выстыў,
І да недахопаў
Не звыклася вока,
І карыкатуры на капіталістаў
Ён чэрціць з сябе,
Бо натура далёка.



## ІВАН ЧЫГРЫНАЎ

Ён рыфмы палоў
На юначай градзе,
Ды клёк пераважыў цвярозы
І зараз
Чыгрынаўскім крокам ідзе
У авангардзе прозы.



## ІВАН ШАМЯКІН

Член-кар, народны і Герой
За землякоў стаіць гарой:
Навокала і ў Церусе
Таленавіцейшыя ўсе!



## ВАСІЛЬ ШАРАНГОВІЧ

У знаўца кнігі, педагога
Заўсёды ўдзячных вучняў многа,
Ды толькі вучні ўсе а la
Работы мэтра Васіля.



## АНАТОЛЬ ШАЎНЯ

У Дантэ профіль быў Шаўні,
І падабенства болыш ані!



## РЫГОР ШАЎЧЭНКА

Без яго, без камбіната
Мы разгонімся не надта,
Без Шаўчэнкі, як без рук,
Кнізе трэба друг і друк!



## СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

Шушкевіч па сваёй ахвоце
Ляцеў з казлом у верталёце,
І з «Барадатым камаром»
Вёў паміж стром,
Як гром, паром.
Каб словам верылі ягоным,
Наняў «Лісу з магнітафонам»



**ЛЕАНІД ШЧАМЯЛЁЎ**

Хоць не ўзважаны
У класіку ўклад
І не вывучаны дэталёва,
Ды ўжо сёння сучаснік пагляд
Грэе фарбамі Л. Шчамялёва.



## КАРЛАС ШЭРМАН

Стараўся Шэрман у сто патоў,
Над працаю гнуўся полазам,
Каб Янка Купала
У сто гадоў
Гаварыў па-іспанску з Коласам!



## РАСЦІСЛАЎ ЯНКОЎСКІ

Брат, сам і ўсе сыны — акторы,
Таленавіцей з іх каторы?
Здаецца, усіх турбуе справа —
Украсці славу ў Расціслава.



## НА КАСТУСЯ КУКСО

Падчас вясёлае ласо
Як след зацягвае Куксо.
Што хібы толькі ў іншых бачыць,
Няхай яму глядач прабачыць!

## НА СЯБЕ

Эпіграму на сябе
Незаконачанай пакіну,
У рукаў схаваю кпіну —
Хай сабе сябе скубе!



Григорий Иванович Бородулии
Константин Никитович Кукcо

**НЕОБЕЗЛИЧЕННЫЕ ОБЛИКИ**

Дружеские шаржи и эпиграммы
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў.
Афармленне М. Р. Козлова.
Мастацкі рэдактар В. П. Жыжэнка.
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч.
Карэктар К. А. Крукоўская
ІБ № 2299
Здадзена ў набор 05.09.83. Падп. да друку 08.01.85. AT 12004. Фармат 70Х84' /е. Папера імпартная. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 3,27. Ум. фарб.-адб. 3,34. Ул.-выд. арк. 2,02. Тыраж 5000 экз. Зак. 4026.
Цана 2р. 95 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.